**СНЕГ, МАРОЗ І... КВЕТКІ**

*Цвітуць ружы ў цяпліцы Сулічаўскай базавай школы*

2

**СТО ДЗЁН “СТАБІЛІЗАЦЫІ”**

*новага тэрміну прэзідэнцтва і іншае*

3

**К НОВОГОДНЕМУ СТОЛУ**

*14 оригинальных рецептов праздничных блюд*

5



# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 28 снежня 2001 г. — 3 студзеня 2002 г. №52 (315)




**ЯНВАРЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Вт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Вс | **6** | **13** | **20** | **27** | |

**ФЕВРАЛЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Вт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Вс | **3** | **10** | **17** | **24** | |

**МАРТ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Вт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | **8** | 15 | 22 | 39 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Вс | **3** | **10** | **17** | **24** | **31** |

**АПРЕЛЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Вт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Чт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Вс | **7** | **14** | **21** | **28** | |

**МАЙ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Вт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | **1** | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чт | 2 | **9** | 16 | 23 | 30 |
| Пт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Вс | **5** | **12** | **19** | **26** | |

**ИЮНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Вт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Пт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Вс | **2** | **9** | **16** | **23** | **30** |

**ИЮЛЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Вт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Пт | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Вс | **7** | **14** | **21** | **28** | |

**АВГУСТ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Вт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | **7** | 14 | 21 | 28 |
| Чт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Пт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Вс | **4** | **11** | **18** | **25** | |

**СЕНТЯБРЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Вт | | **3** | 10 | 17 | 24 | |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чт | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Вс | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

**ОКТЯБРЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Вт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чт | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Пт | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Вс | **6** | **13** | **20** | **27** | |

**НОЯБРЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Вт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чт | | **7** | 14 | 21 | 28 |
| Пт | 1 | 8 | 15 | 22 | 39 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Вс | **3** | **10** | **17** | **24** | |

**ДЕКАБРЬ**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Вт | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ср | | 4 | 11 | 18 | **25** | |
| Чт | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Пт | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Вс | **1** | **8** | **15** | **22** | **29** | |

# СНЕГ, МАРОЗ І... КВЕТКІ

**ДРАГІЧЫН. На двары марозная зіма. Снегам ахутана зямля. Марозам скаваны рэкі і азёры. Вакол пуста. Здаецца, няма нічога жывога. Але як толькі заходзіш у цяпліцу Сулічаўскай базавай школы, то ствараецца ўражанне, што нейкі казачны чараўнік перанёс цябе ў экзатычныя мясціны, дзе пануе зусім іншы клімат, іншае жыццё. Тут пад шкляным дахам растуць розныя кветкі, цеплалюбівыя дрэўцы лімона, іншыя расліны.**



Дырэктар школы Васіль Васільевіч Акаронка (у цэнтры) з вучнямі старэйшых класаў у цяпліцы.

Свой пачатак наша цяпліца бярэ яшчэ з 1973 года, — гаворыць дырэктар школы Васіль Васільевіч Акаронка. — З таго часу мы вырошчваем тут розныя расліны, кветкі, расаду агароднічных культур...

Галоўнае прызначэнне цяпліцы, на думку кіраўніка школы, — пашырыць веды вучняў па батаніцы, прывіць ім любоў да жывой прыроды, выхаваць пачуццё прыгожага.

**Аляксей СЦЕПАНЮК.**

# Які ж лёс чакае калгас

**ІВАЦЭВІЧЫ. Усё часцей чытаю ў малых і вялікіх газетах аб неабходнасці рэфармавання сельскай гаспадаркі. Як яе рэфармаваць, пакуль што ніхто не ведае. Толькі для тэхнічнага абнаўлення нашых калгасаў і саўгасаў патрэбна фантастычная сума — 56 трыльёнаў рублёў. За гады прэзідэнцкага кіравання ў Беларусі мо такую ж суму грошай увалілі ў сельскую гаспадарку. А дзе аддача? Яе няма. Зерне па-ранейшаму купляем за мяжой. Відаць, хутка малако і мяса пачнём завозіць?**

Далёка за прыкладамі хадзіць не будзем. Вось калгас імя Леніна (заўважце, якое імя дадзена гаспадарцы). Тут за 11 месяцаў гэтага года ад кожнай каровы надоена толькі па 1714 кілаграмаў малака, на 365 кілаграмаў менш, чым за такі перыяд летась. У дзень зараз тут надойваюць па 4,02 кілаграма малака, што таксама менш, чым у мінулым годзе. Добрая каза і то больш дае.

Як рэфармаваць такую гаспадарку, як калгас імя Леніна, калі на трэцюю частку жывёлы наогул не нарыхтавалі кармоў (патрэбна 22—24 цэнтнеры кармавых адзінак на ўмоўную галаву, а ёсць толькі 14,1). Ужо наперад само кіраўніцтва загнала ў тупік сваю жывёлагадоўлю.

Варта зазначыць, што тыя нарыхтаваныя кармы не заўсёды можна падвезці (сілас, напрыклад), ён за 20 кіламетраў ад калгаса, а саляркі для трактароў не хапае. Вось і стаяць каровы часам паўгалодныя.

Як паведамлялася ўжо, у Камянецкім раёне "рэфармавалі" адзін калгас. Яго проста па частках раздалі іншым гаспадаркам. Але ж гэта ўжо было ў сельскагаспадарчай практыцы. А карысці — ніякай. Ці не чакае такі ж лёс калгас у Гошчаве, названы імем правадыра ўсіх народаў?

**Мікалай ДЗМІТРУК.**

# "Тэхналагічная" забаронена

## З 1 студзеня 2002 года забаронена эксплуатацыя спецыяльных легкавых аўтамабіляў з надпісам "тэхналагічная" на борце

Такую пастанову прыняў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Да 31 снежня гэтага года такія транспартныя сродкі павінны быць абавязкова перарэгістраваны або пастаўлены на "прыкол".

У Брэсцкай вобласці 1096 так званых "тэхналагічных" аўтамабіляў. Перарэгістравана крыху больш сотні. Астатнія чамусьці марудзяць. І, па ўсяму відаць, чыноўнікі спадзяюцца на сваю беспакаранасць.

Якія ж прычыны забароны эксплуатацыі "тэхналагічных" аўтамабіляў? Камітэт дзяржкантролю рэспублікі пры праверцы выявіў шмат недахопаў. "Тэхналагічныя" машыны выкарыстоўваліся не па прызначэнню, асабліва тыя, што фінансуюцца з бюджэтных арганізацый. Такія легкавікі можна было бачыць у лесе, на дачах, ля рэк і рэчак, ля дамоў чыноўнікаў у выхадныя, ранкам і вечарам у будзённыя дні.

Гэта ўжо не першая пастанова Саўміна рэспублікі аб упарадкаванні выкарыстання спецыяльных легкавых аўтамабіляў. Як будзе на гэты раз, пакажа час.

**Кастусь ДЗЯМЧУК.**

# Тэрарыст — вясковец

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Жыхар вёскі Чамялы Е., будучы ў нецвярозым стане, завёў сварку-бойку з жонкай і сынам. Але сын хутка вырашыў саступіць і проста сышоў з дому. Гэта, мабыць, і надало болей храбрасці п'янаму галаве сям'і, бо сварка паміж ім і жонкай эскалавалася і набыла агрэсіўны характар. Е. схапіў нож і параніў ім жонку. У пошуках паратунку тая кінулася да суседзяў. Пасля гэтага гаспадар унёс у хату газавы балон, адкруціў да адказу вентыль і таксама пайшоў прэч з хаты, трымаючы накірунак на Даманава, дзе жыве дачка.

Падзеі разгортваліся ўвечары, калі ў хаце было ўключана электрычнае святло і палілася ў печы. Менавіта гэтыя абставіны і паспрыялі выбуху газапаветранай сумесі і пажару. У выніку жылы дом разам з усёю маёмасцю аказаўся амаль цалкам знішчаны агнём.

Вінаўнік здарэння быў затрыманы супрацоўнікамі РАУС ужо ў Даманаве. Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

Усяго з пачатку першага зімовага месяца і па стану на 20 снежня ў населеных пунктах Івацэвіцкага раёна зарэгістравана 12 пажараў, не лічачы розныя аварыі іншага характару. Двойчы ў снежаньскім спісе пажараў зноў аказалася вёска Аброва. Дапоўнілі сумны пералік вогненных здарэнняў вёска Стайкі і наш райцэнтр, дзе ў агні пажару ледзь не загінуў пенсіянер Х. Хайрулін.

**Валерый МОЛАШ,**
**ст. інспектар групы прапаганды і навучання Івацэвіцкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

# Музей працуе

## ў Баранавічах ужо 72 гады

Гаворка ідзе пра Баранавіцкі краязнаўчы музей. Тут зараз налічваецца 38 тысяч адзінак экспанатаў асноўнага і 17 тысяч адзінак навукова-дапаможнага фонду. Значная частка гэтых экспанатаў размешчана ў сямі экспазіцыйных залах у адпаведнасці з розінай краязнаўчай тэматыкай.

У распараджэнні гэтага культурна-гістарычнага цэнтра маецца выставачная зала, дзе арганізуюцца самыя розныя выставы.

Варта зазначыць, што толькі за апошнія пятнаццаць гадоў у музеі было праведзена звыш 15 тысяч экскурсій. Колькасць наведвальнікаў складае 862 тысячы чалавек. Найбольш частымі гасцямі музея з'яўляюцца школьнікі і навучэнцы іншых устаноў горада і раёна.

Музей — важны сродак выхавання моладзі. Зыходзячы з гэтага, мясцовы гарвыканкам на сваім пасяджэнні надаўна прыняў рашэнне аказаць музею фінансавую дапамогу для збору і набыцця новых экспанатаў.

**Алесь САШЫН.**

# Два "золата" і адно "серабро"

## атрымаў Баранавіцкі камбінат харчовых прадуктаў на V Міжнародным конкурсе "Лепшае шампанскае, віно і каньяк года", які прайшоў у Маскве

Так, залатыя медалі прысуджаны вінам: пладоваму моцнаму "Прыпяць" і пладоваму салодкаму "Вялікоднае" ("Пасхальное"). "Бронза" дасталася віну пладоваму крапляному "Любімы сад".

Дарэчы, на конкурсе было прадстаўлена 350 узораў такога роду напояў з многіх куткоў былога Саюза — з Арменіі, Азербайджана, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны і іншых рэспублік.

Трэба зазначыць, што Баранавіцкія харчавікі не першы год удзельнічаюць у падобных конкурсах. На іх рахунку ўжо 20 узнагарод за розныя спіртавыя напоі, у тым ліку дзевяць залатых медалёў. Віншуем з новымі ўзнагародамі!

**Кастусь ДЗЯМЧУК.**

# Галота на выдумку здатная

**КОБРЫН.** Тое, што крадуць, ні для кога не навіна. Звыкліся.

Але каб праз сцяну! Гэта ўжо занадта! А здарылася такое ў в. Імяніны Кобрынскага раёна. Злодзеі ноччу разабралі частку цаглянай сцяны мясцовага магазіна, пранiклі ў памяшканне і вынеслі 90 бутэлек гарэлкі, 16 бутэлек віна і кансервы на закуску. Усяго на суму 234000 рублёў.

Вядзецца следства.

**Ніна МАРЧУК.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 26.12.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4500 | 3500—5000 | 3500—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—4000 |
| Сала салёнае | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1400—1600 | 1350—1600 | 1400—1600 | 1500—1700 | 1400—1600 | 1400—1600 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1400—1450 | 1400—1500 | 1500 | 1500 | 1400 | 1300—1400 |
| Малако (3 л) | 900 | 800—1000 | 900 | 900 | 900 | 900 |
| Гранаты | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000—3500 | 3000 | 3000—3500 | 2000—2500 |
| Масла сметанк. | 2500—3000 | 2500—3000 | 3200 | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Бульба | — | 150—200 | 150 | — | — | — |
| Цыбуля | 400—500 | 400—600 | 400—500 | 400—500 | 400—500 | 400—500 |
| Какос (1 шт.) | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000 |
| Ананас (1 шт.) | 7000 | 7000 | 7000 | 7000 | 7000 | 7000 |
| Памідоры | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | — | 3500 |
| Селядцы | 2000 | 1800—2000 | 2000 | 1800 | 1800 | 2000—2100 |
| Ківі (1 шт) | 250—350 | 280—350 | 300—400 | 300—350 | 300—350 | — |
| Грэцкія арэхі | 2000—2500 | 2000—2500 | 2000 | 2000 | 2000 | 2000—2500 |
| Яблыкі | 500—1200 | 600—1600 | 450—500 | 450—500 | 450—500 | 500—600 |
| Маянэз (1п.) | 300—460 | 250—420 | 270—420 | 270—450 | 270—520 | 270—460 |
| Вінаград | 2500—4000 | 2500—4000 | 2700—4000 | 2650—4000 | 2650—4000 | — |
| Мандарыны | 2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 |
| Часнок (1 гал.) | 80—100 | 80—150 | 80—100 | 80—100 | 80—100 | 100—150 |
| Лімоны | 2000 | 1700—2000 | 1600—1900 | 1600—1900 | 1600—1800 | 1600—1800 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 1600—2000 | 1700—1800 | 1700—2000 | 1800—2000 | 1600—1800 |
| Бананы | 1300—1500 | 1200 | 1000—1300 | 1350 | 1200 | 1200 |
| Хурма | 2000—4000 | 2100—4000 | 2500—3500 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2000—4000 |
| Грэчка | 500—550 | 500—540 | 500—550 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 550—680 | 500—650 | 580—650 | 500—650 | 500—670 | 550—630 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 500—550 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 560 |
| Проса | 380 | 330 | 380 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 700 | 730—750 | 750 | 740 | 700 | 700 |
| Мёд | 6000 | 5000-6000 | 5000 | 5000 | 5000-6000 | 6000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1585 | 1600 | 1580 | 1600 | 1580 | 1600 | 1590 | 1605 | 1580 | 1600 | 1575 | 1595 |
| 1 дойчмарка | 680 | 710 | 680 | 700 | 690 | 700 | 680 | 700 | 680 | 700 | 680 | 710 |
| 1 рубель Расіі | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 51 | 53 | 50 | 52 |

# СТО ДЗЁН "СТАБІЛІЗАЦЫІ"

## новага тэрміну прэзідэнцтва краіны і іншае

**Прачытаў артыкул з дзіўнай назвай "Сто дзён новай Беларусі" ("Звязда" за 18 снежня 2001 г.) і не паверыў сваім вачам. Пачатак яго проста ашаламляў: "Выбаршчыкі замацавалі стабільнасць, падтрымалі прапанаваную праграму. І я хачу запэўніць, што яны не пашкадуюць аб сваім выбары".**

**Гэта быў адзін з фрагментаў выступлення прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі 10 верасня на падагульняючай прэс-канферэнцыі, прысвечанай перамозе кіраўніка дзяржавы на выбарах 9 верасня. І далей: маўляў, выбаршчыкі пераканаліся ў тым, што дадзеныя некалі прэзідэнтам абяцанні не пусты гук.**

Мінула якраз сто дзён пасля выбараў. Што ж яны паказалі? Што зроблена? Ці быў гэта пусты ці не пусты гук?

Першае, што было ва ўсіх на вуснах, вядома, зарплата бюджэтнікаў, якая да восені гэтага года павінна скласці сто долараў.

Мінулі выбары. І чаго ж дачакаліся? Анічога, няма абяцанага, як бы карова яго языком злізала. Ужо зараз ніхто пра сто долараў і не думае. Зараз зусім другі клопат — ідзе скарачэнне штатаў. Як утрымацца на рабоце хаця б за якую-небудзь зарплату, каб падтрымаць сям'ю, не пакінуць яе без кавалка хлеба.

Напрыклад, у сістэме культуры, асабліва ў сяле, замест двух бібліятэкараў працуе адзін, гэта значыць, адзін работнік на дзве вёскі. Хадзі туды-сюды і працуй. А ўвогуле, атрымалася адна стаўка, а другой — не стала. Шукай, бібліятэкар, сабе новую работу. Канешне, ужо не ў кніжным храме, а дзе-небудзь на калгаснай ферме ці ў паляводчай брыгадзе. Там заўсёды патрэбны рабочыя рукі.

Хвалявалі і хвалююць людзей цэны. Дакладней кажучы, іх пастаянны рост. Гэта, так сказаць, другая "хвароба". Да выбараў яны раслі неяк запаволена, каб, барані Бог, не пакрыўдзіць электарат; а пасля іх пачалі расці, як грыбы ў лесе пасля цёплага восеньскага дождыка. І літаральна на ўсё: на прадукты і гаспадарчыя тавары, на мэблю і транспарт...

"А як жа прэзідэнцкія абяцанні?" — спытае чытач. А яны зноў жа засталіся пустым гукам, не больш. Дарэчы, ужо агучана і паявілася ў прэсе, што да 2005 года месячны заробак складзе 250 долараў. Наш прэзідэнт зноў абяцае.

Успомніце, паважаныя чытачы, як сем гадоў таму Аляксандр Лукашэнка абяцаў запусціць заводы і фабрыкі. І запусціў. Толькі не ў тым сэнсе гэтага слова. Гляньце, што робіцца ў любым райцэнтры. Як працуе мясцовая прамысловасць? Напрыклад, завод ЖБВ у Івацэвічах то стаіць, то працуе — не хапае сыравіны. Райсельгастэхніка зусім перайшла на чатырохдзёнку са скарочаным рабочым днём. Косаўскае МВА працуе таксама цераз пень-калоду.

Рабочыя Івацэвіцкага леспрамгаса бядуюць, што не хапае сыравіны, што прыходзіцца працаваць і ў выхадныя дні не па сваёй віне, а зарплата месячная рабочых складае 50 тысяч рублёў. А тым часам начальства дзесьці знаходзіць грошы і купляе сабе новыя "лімузіны".

За нізкую зарплату працуюць і рабочыя Драгічынскай райсельгастэхнікі. Тэхніку калгасную яны рамантуюць, а вось гаспадаркі не разлічваюцца за рамонт. Даўгі складаюць больш сотні мільёнаў рублёў і працягваюць расці. Дзе ўзяць калгасу грошай, калі на яго шыі цяжкай гірай вісяць дзяржаўныя мільярдныя даўгі.

Калі гаворка закранула сельскую гаспадарку, то тут трэба сказаць, што яе ўжо дабілі да ручкі. Яшчэ паўтара гады таму, калі я пабываў у калгасе "Бальшавік" (Івацэвіцкі раён), то ўжо тады на ўвесь калгас увесну была адна сеялка. І смешна, і грэшна. Словам, дакіраваліся.

І вось на самым высокім узроўні загаварылі аб рэфармаванні сельскай гаспадаркі, каб не чакаць яе канчатковага скону.

Што ж прапануецца і што ўжо робіцца па так званым рэфармаванні. Там-сям ужо "ляжачыя" гаспадаркі раздзялілі між тымі, хто яшчэ стаяць на "каленях". Да рэфармавання гэтых яшчэ чарга не дайшла.

Калгас "Іскра" (Івацэвіцкі раён) плануюць раздзяліць на паі, на двары. Дапусцім, раздзеляць. 70-гадоваму калгасніку ( а іх зараз большасць у вёсцы) выдзяляць 5-7 гектараў зямлі. Што яму рабіць з гэтай зямлёй, калі ў яго ні каня, ні трактара? Дый нават калі б у старога чалавека былі гэтыя "коні", ён не ў сілах апрацаваць такі ўчастак зямлі.

Чытач скажа: "Хай аддае ў арэнду". Але каму! Калі ў вёсках толькі адзінкі маладых людзей. Астатнія разбегліся ў пошуках работы і заробку. І яшчэ адметная рыса. Перш чым раздаць зямлю і ўсё астатняе на паі і на двары, трэба заплаціць дзяржаве калгасныя мільярдныя даўгі. Дзе ўзяць калгасніку столькі грошай? І гэта не рытарычнае пытанне.

А яшчэ ёсць і акцыяніраванне. Людзі вёскі яшчэ не разумеюць гэтага разумнага слова. Для іх важна адна: мець работу і добры заробак. А назва яго не вельмі цікава.

Кажуць, што нават ўпаўшую на калені жывёліну хутчэй дарэзваюць, каб зусім не загінула, каб штосьці ад яе мець. Калі гэта параўнанне перанесці на ляжачыя калгасы, то там ужо няма чаго "дарэзваць", там няма за што рукі зачапіць. У той жа "Іскры" дайшло да таго, што няма чым гаручае завезці ў калгас.

На фермах калгаса "Косава" вырасцілі і дояць, можна сказаць, казіных кароў, ці лепш нават наадварот. Хай прыватнік-гаспадар паразважае над такой лічбай. За адзінаццаць месяцаў гэтага года ад кожнай так званай казы-каровы тут надаілі па 1137 кілаграмаў малака. Выходзіць, крыху больш трох літраў у дзень.

Каму ж выгадна ўтрымліваць такую ферму і такіх "кароў"? Ці гэта ў вярхах лічаць стабілізацыяй на сяле?

Улады зразумелі, нарэшце, неабходнасць рэфармавання калгасаў. Але ж як іх рэфармаваць, калі за апошнія сем гадоў справы ў сельскай гаспадарцы не палепшыліся, а наадварот, настолькі пагоршыліся, што сяло пусцее на вачах — адны пенсіянеры дажываюць там свой век. Калі хто не верыць, завітайце ў Падстарынь, у Магіліцы, у Вуглы, у Грыўду, у Рэчкі і іншыя населеныя пункты Івацэвіцкага раёна. Падобнае становішча і ў суседскіх раёнах — дзе лепш, дзе горш. А рабіць штосьці трэба, каб слова "стабілізацыя" вымаўлялася з упэўненасцю.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Івацэвічы.**




# Безработица — это...

**Без денег счастливым можно быть? Разве что, если ты монах-отшельник. А в цивилизованном обществе без денег обойтись невозможно. Именно деньги дают человеку независимость, свободу и социальную защищённость. Конечно, счастье матери и здоровье не купишь ни за какие деньги, но если денег нет, то здоровье и счастье потерять можно очень быстро.**

Результаты зарубежных исследований показывают, что смертность среди безработных в два раза выше, чем у людей работающих, а один год безработицы отнимает у человека 5 лет жизни. Симптомы депрессии и агрессивности отмечаются почти у каждого второго безработного. При росте безработицы на 1% число самоубийств увеличивается на 4%, преступность увеличивается на 7-8%.

Многие учёные именно с безработицей связывают проституцию, распространение разных инфекционных заболеваний, увеличение числа алкоголиков и наркоманов, увеличение числа душевнобольных, рост заболеваемости и смертности, рост преступности.

По рекомендации ООН бедность измеряется доходом в 2$ в день. Для оценки социально-экономического положения стран используется индекс нищеты, представляющий собой сумму уровней безработицы и инфляции. Безработица в пределах 2-3% является нормальной. Пороговое значение уровня безработицы оценивается в 7%. Предельно допустимое значение уровня безработицы в мировой практике составляет 8-10%. По данным кандидата экономических наук НИИ Министерства экономики Республики Беларусь М. П. Пилуя уровень безработицы в Беларуси составляет 6,8%, то есть близок к пороговому значению, а с учётом скрытых форм — около 12%.

Так что очень большому числу белорусов счастье только снится. А центры занятости проблем трудоустройства не решают. Так не пора ли правительству Республики Беларусь повернуться лицом к здоровому, трудоспособному населению и издать такие законы, чтобы было выгодно работать молодым, а не пенсионерам, чтобы зарплата соответствовала усердию и прибыли, а не держалась на оптимизме.

**Алла ТОЛСТАЯ.**
**г. Ивацевичи.**

# Што добрага было ў адыходзячым годзе?

## Адказваюць жыхары г. Івацэвічы



**САША:** Год быў звычайны. Галоўная падзея — я ажаніўся. А яшчэ купіў "Фольксваген-Гольф". Галоўнае, што я зразумеў: разлічваць у сваім жыцці трэба на сябе, на свае сілы.



**СВЯТЛАНА ЯЎГЕНАЎНА:** Былі добрыя знаёмствы з добрымі людзьмі, у якіх можна чаму-небудзь павучыцца. Матэрыяльна як жылося? Самі ведаеце... Хіба можа настаўнік машыну купіць?



**АНДРЭЙ МІХАЙЛАВІЧ:** Нічога добрага. Адныя непрыемнасці. У 2001 годзе я шмат хварэў, перанёс інсульт. Вось зараз рашаю пытанне з пуцёўкай у санаторый і ніяк вырашыць не магу.



**ДЗІМА:** Упершыню ўладкаваўся на працу ў дзяржаўную ўстанову і дагэтуль працую там. Дзе? У магазіне "Эдэльвейс" грузчыкам. Знайсці нармальную работу у Івацэвічах не так проста.



**ВАЛЯНЦІНА ІГНАЦЬЕЎНА:** Год як год. Ніхто не нарадзіўся, не ажаніўся, не хрысціўся. Былі, канешне, прыемныя моманты, але толькі моманты. Ад 2002 года я чакаю большага.



**УЛАДЗІМІР:** У 2001 годзе я ажаніўся. Пакупак вялікіх не рабіў. У тым ліку і пасля вяселля. Тое, што трэба было, купіў да вяселля. Год, як сказалі б у школе, быў здавальнючы.

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Жанна ГЛУШЭНЯ (фота).*

# ЧТОБЫ БЫТЬ КРАСИВЫМ, МОЛОДЫМ И СИЛЬНЫМ

**На улице зима. На улице мороз. Торопливо спешат, решая свои предновогодние дела, люди, закутывая, закрывая варежками раскрасневшиеся, словно укушенные, лица... А здесь весело и шумно; раздаётся веселый детский смех. Здесь — это на втором этаже городской бани, где уже не первый год функционирует бассейн и где детишки 3-5 классов всех школ города Ивацевичи регулярно и с огромным удовольствием берут уроки плавания. Они здесь просто счастливы, и именно это определило наш выбор при подготовке материала в новогодний номер.**

**Рядом с детьми — педагог. Автору этих строк удалось на несколько минут отвлечь от работы учителя физкультуры СШ № 3 Василия Васильевича Перетятько, педагога с 28-летним стажем.**


Александр ГОРБАЧ.

С удовольствием занимаются плаванием девочки 3 "Б" класса СШ № 3 г. Ивацевичи.

**— Василий Васильевич, охотно ли ребятишки реагируют на возможность заняться плаванием?**

— Охотно? Не то слово! Из воды не вытащить этих девочек и мальчиков. Фантазия их в воде — просто кипит; они и игры организуют, и просто плавают...

**— Как специалист поясните, какая польза от занятий плаванием?**

— Плавание отлично влияет на общий тонус человека, помогает справиться с сердечно-сосудистыми заболеваниями, формирует хорошую фигуру, улучшает осанку. Кроме этого, у наших детей отличное натроение, море положительных эмоций и крепкий сон...

**— Василий Васильевич, на улице мороз...**

— Понимаю, о чем хотите спросить. В помещении очень тепло; стоят стационарные фены, где дети сушат волосы, кроме этого, все дети приходят со своими фенами.

Ответственно утверждаю: ни один ребенок не то чтобы с мокрыми, а даже на один процент невысушенными волосами помещение не покидает. Не припомню случая, чтобы школьник простудился по причине того, что вышел на улицу неподготовленным к холоду.

**— А занятия в школе...**

— А занятия в школе с занятиями в бассейне не пересекаются. До обеда к нам приходят те дети (3-5 классов), которые ходят во вторую смену, после обеда те, кто обучается в первую.

**— Все ли к весне будут уметь плавать?**

— Не могу сказать однозначно. Но, главное, новички держаться на воде будут обязательно. Согласитесь: гораздо лучше, если ребенок будет учиться плавать не на Яглевичском озере, у которого репутация вы знаете какая, а здесь, в оборудованном безопасном бассейне, под присмотром.

Кроме того, весной мы проводим контрольные соревнования по плаванию среди городских школ. Участвуют те ученики, кто научился плавать.

**— Не так просто всё это организовать и поддерживать на должном уровне. Особенно теперь, когда лишних средств в системе образования практически нет. Кому сказали бы спасибо?**

— Прежде всего руководству РОО. В частности, Виталию Ивановичу Доптуху, методисту отдела и Василию Николаевичу Басалаю, заведующему. Мы ведь, по сути, плаваем в долг, так сказать. Эти люди изыскивают возможность, чтобы продлить существующие договоренности с ЖКХ.

С другой стороны, надо быть благодарными и ЖКХ. Прекрасно то, что руководители этой организации понимают: это — наши дети; их здоровье, физическое развитие не может не волновать любого здравомыслящего человека.

**— Успехов вам, Василий Васильевич! Удачи в Новом году!**

— Всего хорошего и вашей интересной газете!

**Подготовил Александр ГОРБАЧ.**

# Новый салон к Новому году

**КОБРИН.** Не так давно в центре города Кобрина открылась новая современная парикмахерская — УП "Салон-Стиль". Это частное предприятие. Возглавляет его молодая красивая женщина Светлана Лагошина.

В две смены посетителей обслуживают 12 мастеров своего дела. Оказывают услуги в женском и мужском залах. Делают маникюр, макияж, педикюр и другие услуги. Кстати, цены здесь самые низкие среди всех кобринских парикмахерских.

Кроме услуг, в салоне можно приобрести косметические товары фирмы "Люмина" — это губные помады, кремы, лаки.

Посетителей в салоне много, есть уже и постоянные клиенты.

**Нина МАРЧУК.**

# Адкрыты ліст экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Беларусі

**Паважаная рэдакцыя "Газеты для вас"!**

**Віншую Вас з надыходзячым 2002-м годам! Жадаю Вам усім моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, працоўных поспехаў, творчых асвятленняў, радасці ў жыцці і ажыццяўлення надзей!**

**Заканчваецца 2001 год. Час вымушае нас усіх падводзіць вынікі і планаваць сваю будучыню. У сувязі з гэтым напярэдадні новага 2002 года хачу праз вашу газету звярнуцца да сваіх прыхільнікаў, удзельнікаў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2001 года.**

**Дарагія землякі!**

Лічаныя дні аддзяляюць нас ад надыходзячага 2002 года. На кожным значным адрэзку часу прынята падводзіць вынікі. Адыходзячы 2001 год пакінуў у нашай памяці прэзідэнцкую выбарчую кампанію. Па-сапраўднаму ацаніць яе вынікі можна будзе толькі праз пэўны час. Хоць ужо сёння зразумела, што мы разам імкнуліся зрабіць усё магчымае, каб жыццё беларускага народа зрабілася лепшым. Я вельмі ўдзячны Вам за Вашу падтрымку і веру, што ўсё задуманае намі абавязкова будзе рэалізавана.

Звяртаючыся да ўсіх сваіх паплечнікаў і ўдзельнікаў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, я хачу папрасіць у Вас прабачэння. За тое, што многія нашы з Вамі мары не спраўдзіліся. Тое, што спачатку здавалася нам простым і лёгкім, аказалася надзвычай складаным. Я прашу прабачэння за тое, што не апраўдаў Вашы надзеі, надзеі людзей, якія верылі ў мяне, верылі ў тое, што мы адразу зможам зрабіць крок у светлую і цудоўную будучыню. Я таксама шчыра ў гэта веры. Я шчыра хацеў, каб людзям жылося лепей. І, калі я рашаўся балаціравацца на пасаду прэзідэнта, я не бачыў больш важнай задачы, чым дабрабыт людзей. Пераканаvы, што нішто не знікае бясследна. Упэўнены, што, памножыўся наш досвед, захаваўшы ўсё самае лепшае, з надыходам новага, 2002 года, мы будзем яшчэ больш актыўна працаваць над рэалізацыяй нашых планаў.

Новы год — гэта добрае і шчаслівае свята. З яго прыходам мы звязваем самыя светлыя чаканні і надзеі. Якой мы хочам бачыць Беларусь у новым, 2002 годзе? Дэмакратычнай дзяржавай, здольнай забяспечыць усім грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя свабоды, ствараць умовы для працвітання і шчаслівага жыцця ўсіх людзей і кожнага паасобку. Я шчыра веру, што ў недалёкай будучыні ў нашым "Агульным Доме — Беларусі" надыдзе працвітанне — у Новы год жа збываюцца мары.

Жадаю ўсім Вам здароўя і шчасця! Давайце ў Новы год усміхнемся нашым родным, блізкім і сябрам. Пажадаем адзін аднаму цяпла і дабрабыту. І, падымаючы келіхі, прапануем тост за каханне і лепшую будучыню.

Шчыра жадаю Вам ажыццяўлення ўсіх Вашых надзей!

**З Новым 2002 годам!**
**Сямён ДОМАШ.**

# Новогодние поздравления нашим читателям от известных людей

**Александр Солодуха, популярный эстрадный исполнитель:**



— Самые добрые и искренние пожелания! Всех читателей вашей газеты и через вашу газету всех жителей вашего региона поздравляю с наступающим новым годом. Желаю всем счастья, здоровья, удачи, добра, огромной-огромной всем любви. Без этого жить нельзя! А также терпения, мудрости, выносливости и, наверное, смелости каждому. Самое главное — терпения, потому что жизнь непростая, я полжизни прошёл и уже это понял. Надо держаться, держать себя перед собой, перед людьми, в обществе. Уметь хорошо работать и хорошо отдыхать. Счастья, добра и любви!

**— Где будете встречать Новый год?**

— Не знаю, может быть, на концертной площадке с микрофоном, может быть, дома. Как раскинет судьба, карты, так и будет.



**Зміцер Бартосік, беларускі бард:**



— Што пажадаць у новым 2002 годзе? Заставацца нармальнымі людзьмі, не губляць аптымізм, працаваць, верыць у свае сілы, і каб гэтых сілаў станавілася болей, і розуму, аптымізму станавілася болей. Жанчынам — заставацца такімі ж прыгожымі і прыгажэць далей, мужыкам — паменей піць і пабольш задумвацца пра адказнасць перад сям'ёй, перад дзецьмі і перад лёсам.

**Дзе адзначаць свята будў?**

Я ніколі не будую планаў. Там, дзе мяне сустрэне свята.



**Уладзімір Арлоў, вядомы беларускі пісьменнік:**



— Як пісьменнік з дыпломам гісторыка, я не мог не звярнуць увагі на тое, што ў нашым мінулым тыя перыяды, якія потым гісторыкі называюць "залатым векам", паўтараюцца праз 500 гадоў. У 11 стагоддзі "залаты век" перажывала наша першая дзяржава — Полацкае княства, праз 500 год, у 16 стагоддзі, быў "залаты век" Вялікага княства Літоўскага. Прайшло яшчэ 500 год, і 21 стагоддзе павінна стаць "залатым векам" для краіны, якая называецца Рэспубліка Беларусь. Я жадаю чытачам "Газеты для вас", каб ужо ў 2002 годзе мы адчулі першыя прыкметы набліжэння гэтага часу.



**Игорь Мушастиков, директор радиостанции "Юность":**

— Новогодние пожелания? Скоро лето! Скоро будет тепло и хорошо!

**Александр Павлов, диджей радиостанции "Юность":**

— Пусть Новый год нас только сближает! Самое главное — это просто любви. Чтобы было желание любить и чтобы человек все, что ни делал, делал это с любовью.



Слева — Игорь Мушастиков, справа — Александр Павлов.

**Поздравления выслушивал Николай СИНКЕВИЧ.**

 



# К НОВОГОДНЕМУ СТОЛУ

**Новый год — праздник удивительный, и новогодний стол, конечно же, должен отличаться от всех других столов.**

**Наверное, ни к одному празднику не готовятся так тщательно, как к Новому году. Думается, что вам будет что выбрать из предложенных нами рецептов. Счастливого и вкусного праздника!**

## НОВОГОДНИЙ ГУСЬ

Тушку выпотрошить, острым ножом сделать в коже много маленьких надрезов и каждый заполнить порезанным чесноком, перцем, солью. Посолить гуся сверху и внутри, вложить внутрь еще 3—4 измельченных зубчика чеснока, 2 лавровых листа. "Посадить" гуся на чистую пустую бутылку, чтобы тушка сохранила форму, и зашить отверстие. Со всех сторон хорошо побрызгать тушку уксусом и оставить на полчаса для пропитки. Затем положить гуся в гусятницу, налить 1 стакан воды и сначала поставить в неразогретую духовку, а потом включить огонь, чтобы жар поднимался постепенно. Жарить 3 часа, поливая вытопившимся соком.

Перед подачей на стол бутылку вынуть, а тушку подать целиком на большом блюде. Гарнир — отварной рис, печеные яблоки, жареный целиком картофель.

## "РУМЯНЫЙ ПОРОСЕНОК"

**1 кг картофеля, 1 стакан молока, 2 ст. ложки сливочного масла.**

**Начинка: 1 кг мяса или рыбы, 3 луковицы, жир, соль, перец, лавровый лист.**

Из отварного картофеля, сливочного масла, молока, соли приготовить пюре. Мясо или филе рыбы нарезать мелкими кусочками, посолить, поперчить, обжарить с луком, а затем немного потушить в воде с лавровым листом. Небольшое количество пюре выложить на смазанный жиром противень, сверху уложить начинку в виде продолговатой горки, накрыть ее оставшимся пюре. Теперь вылепить поросенка. Не пугайтесь, это совсем не трудно: удлинить мордочку, сделать "пятачок", вылепить ушки, животик, ножки. Глаза — горошинки перца. Главное — не забыть хвостик! С помощью вилки нарисовать реснички. Когда "хрюша" будет готов, тщательно обмазать его взбитыми яйцами и поставить в духовку на 1 час. При подаче полить жиром.

## ФАРШИРОВАННЫЕ ЯЗЫКИ

**6 свиных языков, 200 г свинины или говядины, 50 г сыра, 1 головка чеснока, 3 сваренных вкрутую яйца, 50 г шпика, черный молотый перец, соль.**

**Для соуса смешать 1/4 стакана подсолнечного масла, 70 г сливочного масла, 1 стакан белого сухого вина, немного воды, соль.**

Языки отварить и вырезать середину. Вынутую мякоть соединить с мелко нарезанной свининой, добавить нарезанный кубиками сыр, порубленный чеснок, измельченные яйца, шпик, перец, соль. Фаршированные смесью языки уложить в форму и залить соусом так, чтобы языки были покрыты полностью. Поставить в духовку и тушить при умеренной температуре.

## РУЛЕТ ИЗ СЫРА

**300 г сыра, куриное мясо, творог, зелень, соль.**

Сыр положить в полиэтиленовый пакет, смазанный внутри растительным маслом, крепко завязать и опустить в кипящую воду на 10—15 минут, чтобы сыр стал мягким.

Вынуть сыр и быстро раскатать. Сверху выложить заранее приготовленную начинку из творога, соли, рубленой зелени и вареного мяса курицы. Свернуть в рулет, обернуть фольгой и положить в холодильник. Перед подачей на стол нарезать ломтиками.


IREX/ProMedia.


IREX/ProMedia.

## САЛАТ ИЗ КОПЧЕНОЙ РЫБЫ

**На 350 г копченой рыбы — 1 соленый огурец, 150 г зеленого горошка, 2 вареных яйца, 3 ст. ложки рубленой зелени, 250 г майонеза.**

Очистить рыбу от костей и кожи. Яблоки, соленый огурец, яйца нарезать кубиками, добавить зеленый горошек, рубленую зелень, все перемешать и заправить майонезом. Салат уложить горкой, украсить дольками вареного яйца и зеленью.

## "НОВОГОДНИЙ"

**Мясо куриное, лук репчатый, ошпаренный кипятком, киви, свежий огурец, желток вареного яйца, майонез.**

Все продукты нарезать кубиками, перемешать, украсить зеленью.

## "ЗИМНИЙ"

**3 шт. картофеля, 300 г говядины, 100 г сельди, 2 яйца, 1 яблоко, 2—3 маринованных огурца, 1 стакан сметаны, 1 ст. ложка горчицы, соль.**

Мясо и картофель отварить, охладить и нарезать кубиками. Огурцы, яблоки и сельдь нарезать также. Все перемешать. Сметану соединить с горчицей и солью. Полученной смесью заправить салат, тщательно перемешать. Украсить вареным яйцом.

## САЛАТ ИЗ КУКУРУЗЫ С КУРАГОЙ ИЛИ ЧЕРНОСЛИВОМ

**Кукуруза, лук, яйцо вареное, твердый сыр, курага или чернослив, майонез.**

Кукурузу, пассерованный лук, натертые на терке яйцо и сыр, курагу или чернослив укладывают слоями и заливают майонезом.

## САЛАТ ИЗ ПЕЧЕНИ ТРЕСКИ

Выложить слоями, промазывая майонезом и пропитывая жиром от печени: натертый на крупной терке вареный картофель, размятую печень трески, натертую вареную морковь, измельченные яйца, натертый сыр. Залить майонезом. Количество продуктов — по желанию.

## "ВОЗДУШНЫЙ"

Укладываем на большое блюдо слоями: **2 стакана вареного риса, мелко нарезанную вареную курятину без кожи, измельченную луковицу, соль, 1 банку консервированных грибов, 1 банку кукурузы.** Сверху выложить 2 стакана вареного риса, смазать майонезом, посыпать рублеными орехами.

## "НОВЕНЬКИЙ"

Морковь натереть на крупной терке, лук порезать кольцами, обжарить в растительном масле.

В салатнике перемешать мелко порезанные **5 яиц, 0,5 кг отварной телятины, разделенной на волокна, натертую на терке 1 черную редьку, морковь с луком,** посолить, заправить майонезом.

## САЛАТ-ТОРТ

**0,5 стакана изюма, 0,5 стакана грецких орехов, 10—15 шт. чернослива, 2—3 небольшие вареные свеклы, 2 зубчика чеснока, 100 г майонеза, соль — по вкусу.**

Чернослив замочить, когда станет мягким, порезать, вынув косточки, грецкие орехи и чеснок мелко порубить или пропустить через мясорубку. Свеклу натереть на крупной терке.

Все, включая изюм, перемешать, посолить и заправить майонезом. Салат выложить на плоскую тарелку, придав ему форму круглого торта.

## ТОРТ "ЕЛОЧКА"

**Для теста: 1 кг муки, 1 ч. ложка корицы, 2 яйца, 1 стакан сахара, щепотка соли, 400 г сливочного масла, 1 ч. ложка соды.**

**Для крема: 3 яичных белка взбить с 1,5 стакана сахара.**

Замороженное масло натереть на терке, добавить соду, соль, корицу, взбитые с сахаром яйца, перемешать и всыпать муку.

Замесить тесто и поставить на 2 часа на холод. На стол насыпать муку и раскатать тесто толщиной 1 см, вырезать из него 5 разной величины треугольников, выпечь их в духовке. Выложить треугольные коржи один на один в форме елочки, промазывая кремом. Если есть зеленая кокосовая стружка, посыпать ей елочку. По углам каждого треугольника можно поставить маленькие свечи.


IREX/ProMedia.

## "КАРНАВАЛЬНАЯ НОЧЬ"

**50 г сливочного масла, 3 яйца, 1 ст. ложка меда, 1 ч. ложка соды (погасить в уксусе), 1 стакан сахара.**

Смешать все ингредиенты, варить на водяной бане 10 мин. В эту массу всыпать 3 стакана муки, замесить тесто и поставить варить еще на 3 мин. Выложить тесто на стол, замесить, подсыпав еще немного муки, разделить на 9 частей. Раскатать коржи, испечь.

**Крем: 1,5 ст. ложки манной крупы, 1,5 ст. ложки муки, 1,5 ст. ложки крахмала, 0,5 стакана молока.**

Молоко вскипятить, постепенно всыпая туда манную крупу, крахмал и муку. Помешивая, заварить смесь и остудить.

Отдельно взбить **1,5 стакана сахара, 300 г сливочного масла, 2 ст. ложки какао.** Соединить с заваренной смесью и смазать полученным кремом коржи. Готовый торт полить **шоколадной глазурью (смешать 2 ст. ложки какао, 100 г сахара, 70 г сливочного масла, 5 ст. ложек молока),** варить 5 мин.

Поверх глазури положить трафарет, на котором вырезаны звездочки, и обсыпать кокосовой стружкой. Затем трафарет убрать, а на торте появятся звезды.

**Полосу подготовила Таисия КОВАЛЬЧУК.**

 

